


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

9 лютага 2001 года
№ 6 (303)
Цана ў розніцу 110 рублёў




## Навіны рэгіёна

### Вілейшчына мяняе кіраўніцтва




Фота з архіва "РГ".

**Былы першы намеснік старшыні Вілейскага райвыканкома Пётр Юдо і выконваючы абавязкі старшыні Яўген Сініла.**

ВІЛЕЙКА. За грубыя парушэнні і недахопы ў вытворча–гаспадарчай дзейнасці шклозавода "Залессе" рашэннем Мінскага аблвыканкома вызвалены ад сваёй пасады прадпрыемства **В. Вайцяхоўскі**. Новым кіраўніком прызначаны галоўны інжынер **В. Забаронак**.

Адначасова адзначана крайне нездавальняючая работа Вілейскага райвыканкома па падрыхтоўцы аб'ектаў цеплазабеспячэння да ацяпляльнага перыяду. Вызваленыя ад сваіх пасад першы намеснік старшыні райвыканкома **П. Юдо** і намеснік старшыні **А. Абрамаў**; яшчэ аднаму намесніку – **Н. Каротчаму** аб'яўлена вымова.

Пытанне аб адказнасці старшыні райвыканкома **І. Шнітоўскага** за напружаную сітуацыю, што склалася ў раёне, будзе разгледжанае пасля выздараўлення. Абавязкі старшыні выконвае пакуль што **Яўген Сініла**.

Працяг тэмы («Зачыстка» у Вілейцы) чытайце на 3–й стар.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Новы аўтобусны маршрут

МАЛАДЗЕЧНА. З 1 лютага ў горадзе можна ўбачыць "дванаццатку": мясцовы аўтапарк зацвердзіў новы маршрут. На ім пакуль выкарыстоўваецца адзін аўтобус.

Намеснік дырэктара аўтапарка №4 **Віктар Руткоўскі** нагадаў, што ў горадзе па будніх днях ходзіць 29 аўтобусаў, на "дванаццатку" выдзелілі дадатковы. Іншыя маршруты не пацерпяць.

У сувязі з магчымымі зменамі, расклад руху напісаны на аўтобуснай шыльдзе з нумарам. Пасля ўдакладнення час прыходу–адыходу аўтобусаў з'явіцца і на прыпынках.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Грамадзянскія ініцыятывы

АШМЯНЫ. У студзені на Ашмяншчыне з'явіліся дзве новыя арганізацыі.

Прадстаўнікі розных маладзёжных арганізацый стварылі "Шоу–тэатр", а заснавальнікі маладзёжнай грамадскай арганізацыі "Цінэйджэр" падалі дакументы на рэгістрацыю. У планах – правядзенне дыскатэк, арганізацыя маладзёжных акцый, адукацыя моладзі ў галіне правоў чалавека.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 10 лютага

**Мінск**
0°С (уначы)
7°С (удзень)



**Вільня**
2°С (уначы)
4°С (удзень)



Нядзеля, 11 лютага

**Мінск**
-2°С (уначы)
4°С (удзень)



**Вільня**
1°С (уначы)
3°С (удзень)



# Дэпутаты прагаласавалі за 5%

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 лютага на тэрыторыі горада большасць тавараў падаражэла на 5%. Згодна з рашэннем сесіі гарсавета, прынятым на сесіі ў канцы студзеня, новым падаткам не абкладаюцца толькі тыя тавары, якія ёсць у спісе Савета Міністраў. Пры галасаванні дэпутаты не ведалі нават, што за тавары знаходзяцца ў тым спісе.**

Старшыня Савета дэпутатаў (СД) **Наталля Бялкова** гаворыць, што дэпутатам настойліва раіў прыняць рашэнне начальнік Мінскага абласнога фінансавага ўпраўлення **Павел Зайцаў**, які ўгаварыў народных выбраннікаў тым, што аналагічныя рашэнні прымае ўся вобласць. Увогуле, ініцыятарам з'яўляецца аблвыканком, які сваім рашэннем абавязаў раённыя і гарадскія СД прыняць падобны падатак.

Супраць выступіў дэпутат **Станіслаў Бука**, які параіў не спяшацца, а добра вывучыць спіс тавараў, у якім, як аказалася, былі толькі прадукты харчавання. Некаторыя дэпутаты бачылі памылковасць такога рашэння ў тым, што патрэбна далучыць да льготнай групы тавары павышанага попыту (адзенне, абутак, рытуальныя тавары), бо новы падатак зніжае пакупную здольнасць. Трэба ўлічыць, што маладзечанцы гэтыя тавары будуць купляць за межамі горада, што прывядзе да з'яўлення дадатковых прарэх у бюджэце.

А ён і так трашчыць. Наталля Бялкова мяркуе, што гораду для нармальнага жыцця (своечасовай зарплаты бюджэтнікам, добраўпарадкавання вуліц, нармальнага харчавання ў дзіцячых садках, фінансавання ФК "Маладзечна", рамонту Дома культуры, будаўніцтва школы ў 6–м мікрараёне) патрэбна 32 мільярды рублёў.

Працяг тэмы на 3-й стар.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**9-ы дзень жыхары мінскай часткі рэгіёна плацяць на 5% звыш цаны некаторых тавараў. Куды ідуць гэтыя грошы, дэпутаты, прыкладам, Маладзечанскага гарсавета будуць устанаўліваць толькі сёння.**

Экспрэс–апытанне маладзечанцаў

# Як вы ставіцеся да ўвядзення мясцовага падатку?



**Людміла Якаўцава, загадчык комплексу культтавараў у ГД "Нямiга–Маладзечна":**
– Ні адзін чалавек за гэтыя дні не сказаў нічога добрага ці благога – можа, ужо прывыклі. А тавараабарот у нашым магазіне знізіўся. Нахонт павышэння цэнаў: лічу, што не трэба было гэта рабіць. Якім чынам папоўніць бюджэт? Пытанне не для мяне.

**Алена Варабей, адвакат:**
– З маёй зарплатай адваката я за гэтыя дні не хадзіла на рынак, таму павышэнне цэнаў не адчула. Але гэта на мне адаб'ецца, я ўпэўненая. Увогуле, павелічэнне падаткаў ніколі не прыносіць добрых вынікаў. Гэта сусветная практыка.





**Тамара Герко, падатковы інспектар:**
– Зразумела, бюджэт трэба папаўняць. А як яшчэ гэта рабіць, як не праз дадатковыя падаткі? Як дзяржчыноўнік, ведаю, як цяжка сабраць бюджэт, тым больш, гэта не самадзейнасць выканкома, а дазвол дзяржавы. А калі носіш кашалёк у кішэні, то адчуваеш павышэнне цэнаў.



**Ірына Чурлоўская, падатковы інспектар:**
– Добра, што не падаражэлі прадукты, ёсці хочацца заўсёды. А як пакупнік, скажу: зразумела, што новы падатак – гэта горш.



**Ганна Руткоўская, прадавец:**
– А мне ўсё адно, бо гэта непазбежна. Узднімуцца цэны – узднімуцца пенсіі. Я ўжо да гэтага прывыкла.

**Павел Саўчанка, пенсіянер:**
– Адмоўна. Цяпер менш стала клопату пра людзей. Трэба, каб быў парадак. Цяпер дрэнна працуе міліцыя, беспарадак. Такога раней не было.

**Фотаапытанне падрыхтавалі Яўген СТЭЛЬМАХ і Юрый КАРПІЦКІ.**

## Шляхам Барыса Кіта

**З красавіка мінулага года пачала рэалізоўвацца ідэя конкурсу, прысвечанага 90–годдзю з дня нараджэння сусветна вядомага беларуса, акадэміка міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, віцэ–прэзідэнта міжнароднай акадэміі навук Еўразіі Барыса Кіта.**

Мэта конкурсу – адзначэнне і пашырэнне даследаванняў і пошукаў моладзі (школьнікаў, навучэнцаў ПТВ, студэнтаў першых курсаў сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў) у галіне беларускамоўнага вывучэння матэматычных дысцыплін, гісторыі і геаграфіі Беларусі, стварэння адпаведных метадычных дапаможнікаў, афармлення спецыялізаваных класных памяшканняў і экспазіцый музеяў навучальных устаноў. Асаблівая ўвага ўдзельнікаў конкурсу звяртаецца на адлюстраванне жыцця і дзейнасці настаўнікаў, выкладчыкаў, якія спалучалі ў сваёй педагагічнай дзейнасці высокае прафесійнае майстэрства і карыстанне беларускай мовай, выхоўвалі патрыётаў роднага краю, былі аматарамі краязнаўчай працы, школьнага музеязнаўства.

Конкурс распаўсюджваецца на рэгіёны Беларусі, дзе пралягаў драматычны і высакародны жыццёвы і педагагічны шлях Барыса Кіта: Карэліцкі, Навагрудскі раёны Гродзенскай вобласці, Баранавіцкі раён Брэсцкай вобласці, Маладзечна і Маладзечанскі раён Мінскай вобласці, Пастаўскі і Глыбоцкі раёны Віцебскай вобласці.

Зацікаўленых асоб і прадстаўнікоў школ і ўстаноў сістэмы прафесійнай адукацыі просім прыслаць заяўкі з паведамленнем дакладнага адрасу, спісу ўдзельнікаў конкурсу, тэмы конкурснай працы да 1 сакавіка 2001 года на адрас: Гродна, 230023, а/с 22 з пазнакай "Конкурс".



Сільвестр Шостак і Тадэвуш Кручкоўскі. Фота Жанны ВЯНГРОУСКАЙ.

## Консул раздаваў падарункі

**АСТРАВЕЦ. Райцэнтр на мінулым тыдні наведаў генеральны консул Польшчы Сільвестр Шостак і старшыня ГА "Саюз палякаў Беларусі" Тадэвуш Кручкоўскі. Сустрэча з дзецьмі, настаўнікамі і прадстаўнікамі раённага аддзялення Саюза палякаў адбылася ў РДК.**

Са спазненнем, але Сільвестр Шостак павіншаваў дзяцей з прайшоўшымі святамі. Намеснік старшыні выканкома Ірына Шляхтун выказала думку, што ў палякаў на Астравеччыне ёсць шмат магчымасцяў у вывучэнні мовы і грамадскай дзейнасці. Хаця ўжо каторы год Астравецкі выканком не можа выдзеліць для раённага аддзялення памяшканне ці плошчу для будаўніцтва Дома палякаў.

Натуральна, не абышлося без выступленняў вучняў і раздачы падарункаў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ ЗАХАПЛЕННІ

## У Мядзеле ёсць свой рыцар

**МЯДЗЕЛ. Захапленне настаўніка гісторыі Мікалая Малько незвычайнае: ён вырабляе рыцарскія даспехі часоў Вялікага княства Літоўскага. Займаецца гэтым ужо 6 год.**

**– Калі ты гэтым зацікавіўся?**

– "Хвароба" пачалася, калі вучыўся на трэцім курсе БДУ. Адзін з хлопцаў пачаў "падымаць" увесь інтэрнат тым, што кляпаў кольцы для кальчугі. Ён і сцягнуў да сябе людзей.

**– Што за гэтыя гады ўдалося зрабіць?**

– Два з паловай даспехі, пяток шлемаў. А яшчэ паўдзельнічаў у вялікай колькасці мерапрыемстваў.

**– "Звычайны" даспех – колькі займае часу яго зрабіць?**

– Калі нармальны, прыгожы, – то не менш за год. І важыць ён да 40 кілаграмаў.

**– Літаратуры для работы хапае?**

– Ёсць раздрукоўкі, замалёўкі, фотаздымкі – тут праблемы не ўзнікае. Выдадзены вельмі добры зборнік – "Энцыклапедыя зброі". Там увесь даспех па дэталях размаляваны, бяры і рабі.

**– А з чаго?**

– З гэтым поўнай рэканструкцыі не атрымліваецца: трэба было б выплавіць руду, выбіць з кавалка жалеза. Робім з металапракату, паўтараміліметровага.

**– А якіх якасцяў гэта захапленне вымагае?**

– Ніколі не задумваўся. Па–першае, трэба нешта ўмець рабіць. Па–другое, захапляцца. А яшчэ неабходна цярплівасць, шмат цярплівасці.

**– На якіх цікавых мерапрыемствах пабываў?**

– Апошнія паўтара года быў у Полацку, пры цэнтры нацыянальных культур і рамёстваў. І ўжо тут з сябрамі рыцарскага клуба "Жалезны воўк" паездзілі ўволю. А самыя яркія ўспаміны засталіся ад сярэднявечнага фэсту "Наваградак–2000". Не таму, што вельмі спадабалася (без хібаў не абышлося), а таму, што мерапрыемства такіх маштабаў было ўпершыню ў Беларусі.

**– Ты і за мяжой на рыцарскім турніры пабываў.**

– Адзін раз, у Чэхіі. Там летам амаль праз тыдзень праводзяць турніры ў адным, другім, трэцім месцы. У нас у Навагрудку ўсё было так сур'ёзна – рэканструкцыя бітвы, а чэхі паставяць, скажам, маленькую драўляную крэпасць – адныя штурмуюць, іншыя абараняюць. І ўсё з такімі прыколамі. Прыкладам, цягнуць з палявання надзьмутага кракадзіла. Чэхі прыязджаюць на рыцарскія турніры адпачываць, яны свайго ўжо дасягнулі праз гэтую культуру. А мы рыцарствам хочам нечага дабіцца, узняць свядомасць свайго народу.

**– Які самы вялікі рыцарскі турнір у Еўропе?**

– З тых, што ведаю, – Грунвальд у Польшчы. Там збіраецца каля паўтары тысячы чалавек толькі ўдзельнікаў. Грандыёзна!

**– Вы ж і паказальныя баі ладзіце. Ці можна ў іх параніцца?**

– Бываюць паказальныя баі, бываюць набліжаныя да сапраўднасці (зразумела, мячы тупыя). А траўмы могуць быць, калі даспех дрэнна зроблены – вось тут усё і правяраецца.

**– Як бы ты завяршыў фразу: "У Беларусі рыцарскі дух..."**

– ... вельмі актыўна пашыраецца. Адно, што не заўсёды беларускага накірунку. Бывае так званага "хобіцкага", "крыжацкага" (дзіўна, здавалася, у нашай краіне не павінны крыжакоў любіць), "рускага" накірункаў.

**– І што самае прыемнае ў гэтым захапленні?**

– Нацягнуць на сябе даспех і пахадзіць, паўдзельнічаць у якой бойцы. Адчуваеш сябе, як нейкі ледакол, якому нічога не страшна. Толькі чуеш удары па жалезе і ўсё. Адчуванні выдатныя.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота з архіва Мікалая Малько.

**Сябры рыцарскага клуба "Жалезны воўк". У цэнтры – герой матэрыялу.**

## Успаміны пра Маладзечна

**Гэты рукапіс знойдзены ў альбомах, прысвечаных краязнаўчым паходам следапытаў. Напісаны ён у пачатку 1966 года.**

**Працяг.**

Асобна стаяў вялікі драўляны будынак пачатковай школы. Увесь гэты комплекс будынкаў быў абнесены з вуліцы цаглянай сцяной. З тылу да семінарскіх будынкаў падыходзіў стары парк з векавымі дрэвамі: ліпамі, дубамі, клёнамі, язмінамі і таполямі. Пасярэдзіне парку быў сад, побач з паркам – агарод. За паркам і агародам раскінуўся семінарскі луг на дне чатырохкутнай катлавіны (былая манастырская сажалка), якую перасякала рэчка Маладачанка, прыток ракі Уша. Гэтая рэчка ўвосень запруджвалася і на лузе атрымліваўся добры каток. За семінарскай сядзбай, якая займала каля 10 гектараў, абсаджанай з адваротнага боку арэшнікам, цягнуліся з аднаго боку сялянскія палі, потым – яўрэйскі магільнік, з другога боку – забалочаная пойма рэчкі Уша.

Семінарысты насілі форму: чорныя кашулі з рамянём і штаны навыпуск, чорны шынель з жоўтымі металічнымі гузікамі, чорныя чаравікі. На чорнай фуражцы замацоўвалася жоўтая металічная стужачка з раздвоенымі канцамі і трыма металічнымі літарамі "МУС" пасярэдзіне. На бронзавай спражцы былі такія ж самыя літары.

Распарадак семінарыстаў быў наступны. Пад'ём а 7–й гадзіне, агульная малітва з прысутнасцю папа і дзяжурнага настаўніка, сняданак у сталоўцы да 8 гадзін, вучэбныя заняткі з 8 да 12 гадзін. А 12–й гадзіне – паўгадзіны перапынку з другім сняданкам і зноў заняткі да 16 гадзін. Пасля гэтага – абед. Пасля – практычныя заняткі ў садзе і гародзе, у сталярнай майстэрні, у класах спеваў і музыкі па прызначэнні. З 19 гадзін – выкананне дамашніх заданняў і падрыхтоўка да заўтрашніх заняткаў. А 21–й гадзіне вячэра, а 22–й – агульная малітва і адыход да сну. Перад кожным прыёмам ежы і пасля яго – малітва нараспеў. Напярэдадні святаў і ў святы – абавязковае багаслужэнне ў дамавой семінарскай царкве. Гэтая царква абслугоўвалася семінарскім папом, у дапамогу якому прызначаліся дзяк, царкоўны стараста і званар з ліку семінарыстаў. Кожны год на Вялікі пост (на канікулах) – гавенне, гэта значыць, споведзь з абавязковым прадастаўленнем даведкі пра гэта.

Семінарыя мела ўласную амбулаторыю з доктарам.

У семінарыі выкладаліся наступныя прадметы: арыфметыка – поўны курс; алгебра – да квадратных ураўненняў – уведзеная з 1909 г.; геаметрыя; фізіка; агульная гісторыя – старажытная, сярэдняя і новая; руская мова і літаратура; чарчэнне; маляванне; чыстапісанне; музыка і спевы; педагогіка; псіхалогія; логіка; дыдактыка; методыка выкладання асобных дысцыплін; асновы царкоўна–славянскай мовы з граматыкай.

Акрамя гэтага, выхаванцаў навучалі сталярнай справе ў майстэрні, а таксама выкладалі тэорыю садоўніцтва і агародніцтва. Практыку праходзілі ў садзе і на гародзе. Гэты гарод поўнасцю пакрываў патрэбы семінарскай арцельнай гаспадаркі ў гародніне, якая значна дапамагала пры невялікай стыпендыі. Быў вялікі хмельнік. Хмель з'яўляўся для Маладзечна новай тэхнічнай культурай.

Калі агульнаадукацыйныя і педагагічныя, а таксама прыкладныя прадметы вывучаліся з ахвотай, дык ад царкоўных навук вучні усяляк адварочваліся і адведзеныя на іх вывучэнне гадзіны прысвячалі чытанню кніг з семінарскай бібліятэкі, дзе былі творы рускіх класікаў, а таксама Майн Рыда, Жуля Верна, Фенімора Купера, Луі Бусенара, Бічэра Стоуна і іншых.

Семінарыя мела свой сімфанічны аркестр з 30–40 удзельнікамі, але ён распаўся ў 1906–1907 г. у сувязі са смерцю капельмайстра і немагчымасцю знайсці яму замену. Пад яго музыку семінарыстаў у асабліва ўрачыстых выпадках вадзілі ў мястэчковую царкву, дзе семінарскі хор у колькасці чалавек 40 страсаў зводы сваімі магутнымі галасамі. Пад музыку праводзіліся вясновыя і асеннія святы дрэў і іншых раслін. Семінарысты ставілі самадзейныя пастаноўкі, а паколькі стасункі з месцічамі забараняліся, то жаночыя ролі вымушаныя былі выконваць навучэнцы семінарыі.

**Працяг будзе.**

**Іван МІХАЛЁНАК.**

■ ДНІ

**10 лютага 1921 года ў складзе Наркампроса БССР створаная Навукова–тэрміналагічная камісія па распрацоўцы тэрміналогіі на беларускай мове.**

**11 лютага 1411 г. быў заключаны Торуньскі мір** паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з другога, якім закончылася "Вялікая вайна" 1409–1411 гг.

**14 лютага – Дзень святога Валянціна.**

**100 год з дня нараджэння І. Цімчука** (1901–1982), арганізатара і кіраўніка падполля ў Мінскай, Вілейскай і Віцебскай абласцях, Героя Савецкага Саюза.

**15 лютага – Дзень памяці воінаў–інтэрнацыяналістаў**

**70 год з дня нараджэння Г. Паплаўскага** (1931), беларускага графіка.

■ ІМЯНІНЫ

**9 лютага**

Праваслаўныя: **Івана (Іаана Златавуста).**

Каталіцкія: **Апалоніі, Кірылы.**

**10 лютага**

Праваслаўныя: **Ісака, Фядоса, Яфрэма.**

Каталіцкія: **Схаластыкі, Яцка.**

**11 лютага**

Праваслаўныя: **Герасіма, Ігната, Лаўрэнція, Рамана, Селівана.**

Каталіцкія: **Бярнарды, Марыі, Лазара, Люцыяна.**

**12 лютага**

Праваслаўныя: **Васіля, Зянона, Пятра, Рыгора, Феафана.**

Каталіцкія: **Яўлаліі, Мадэста, Мялеція, Юльяна.**

**13 лютага**

Праваслаўныя: **Фядоссі, Віктара, Івана, Клаўдзія, Мікіты, Нікіфара.**

Каталіцкія: **Катарыны, Рыгора.**

**14 лютага**

Праваслаўныя: **Пятра, Трыфана.**

Каталіцкія: **Валенты, Зянона, Кірылы, Мяфодзія.**

**15 лютага**

Праваслаўныя: **Грамніцы, Анісіма.**

Каталіцкія: **Зігфрыда, Іевіта, Фаўстына, Юзафа.**

**Кінатэатр «Радзіма»**
**Вялікая зала, люты**

9 – 11 лютага – **"Сутыкненне з безданню"** (Удар з космасу), ЗША, баявік 15–00, 19–10
**"Я, зноў я і Ірэн"**, ЗША, камедыя, Джым Керы 13–00, 17–10, 21–00

13 – 18 **"Патрыёт"**, ЗША, прэм'ера, 2 серыі 14–30, 17–30, 20–30

**Для дзяцей**

11 – **"Як Колька і Пецька лёталі ў Бразілію"** і 3 мультфільмы 11–00

## ... за 5%

Заканчэнне.

Вобласць зацвердзіла расходную частку ў 13,4 мільярда рублёў. Даходаў, што застануцца ў горадзе пасля ўзносаў у абласны і рэспубліканскі бюджэты, плануецца сабраць 11,4 мільярда. Каля 2 мільярдаў выдаткуе аблвыканком як датацыю.

Дзякуючы новаму падатку, вертыкаль хоча папоўніць даходную частку бюджэту. Заўважу, яны пайшлі па найбольш лёгкім шляху: папаўняць казну з нашых з вамі кішэняў. За што і атрымалі шквал крытыкі ад «удзячных» маладзечанцаў.

У гарвыканкоме выпрацоўваюцца іншыя варыянты і прапановы, там хацелі б адысці ад прапанаванага пераліку, абмеркаваць новы. Да віна–гарэлачных, тытунёвых, ювелірных, якія раней абкладаліся, мяркуецца дадаць імпартныя тавары, каб абараніць свайго вытворцу. Змены плануецца ўнесці на сённяшняй сесіі гарсавета.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## З'явіліся павільёны па продажы сала

**МАЛАДЗЕЧНА. З гэтага месяца на калгасным рынку адкрыліся два павільёны, у якіх гандлююць салам.**

Яны размешчаны на 16 гандлёвых месцаў кожны. Усе занялі арандатары. Увядзенне павільёнаў патрэбна па санітарных нормах, у якія гаворыцца, што мяснымі прадуктамі і рыбай можна гандляваць толькі ў спецыяльна прыстасаваных месцах.

На тэрыторыі рынку стаіць трэці павільён, у якім будуць прадаваць рыбу.

– Каб яго ўвесці ў строй, трэба зрабіць падлогу і пафарбаваць павільён звонку, – гаворыць дырэктар харчовага рынку **Аляксей Увараў**. – Акрамя гэтага, для ўсіх павільёнаў будзем рабіць каналізацыю, праводзім ваду і электрычнасць.

Заўважу, што ўсе інстанцыі настойліва раяць гэта зрабіць не пазней, як у красавіку.

– Мы спадзяемся, што гэта будзе ажыццёўлена, – дадае дырэктар.

У больш далёкіх планах – увядзенне другога рыбнага і трэцяга "сальнага" павільёнаў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# У рэгіён прыйшоў грып

**МАЛАДЗЕЧНА. За апошнія два тыдні больш за тысячу чалавек у горадзе захварэлі на грып і вострыя рэспіраторныя інфекцыі. Ад пачатку лютага захворваемасць перавышала нарматыўныя ўзроўні ў тры разы. Гэта сведчыць пра пачатак эпідэміі.**

Каранцін уведзены ў дзіцячых дашкольных установах і школах–інтэрнатах горада. Забараняюцца ўсе агульнашкольныя мерапрыемствы. Работнікам гандлю, цырульняў і інш. неабходна будзе нейкі час працаваць у спецыяльных масках–павязках. Вільготнае прыбіранне памяшканняў арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў рэкамендуецца праводзіць з выкарыстаннем хлораўтрымліваючых прэпаратаў.

Самай эфектыўнай абаронай ад грыпу лічацца прафілактычныя прывіўкі, якія праводзяцца перад пачаткам магчымай эпідэміі. Гэта і было зроблена ў Маладзечне ў канцы года, аднак, з-за абмежаванага паступлення вакцыны, прышчэпкі праводзіліся толькі сярод асобных груп насельніцтва, вызначаных Міністэрствам аховы здароўя.

У выпадку з'яўлення сімптомаў захворвання на грып ці вострую рэспіраторную вірусную інфекцыю, з мэтай папярэджвання ўскладненняў і распаўсюджвання інфекцыі, трэба ўстрымацца ад наведвання школы, дзіцячай дашкольнай установы, выхаду на работу, а таксама наведвання паліклінікі. Лепш выклікаць урача да дом. Хворага пажадана ізаляваць у асобным пакоі, а пры кантактах выкарыстоўваць чатырохслойную марлевую павязку.

**Юрый ДЗЕМІДОВІЧ, урач–эпідэміёлаг РЦГіЭ, аддзел інфармацыі "РГ".**



**У маладзечанскіх цырульнях яшчэ ў сераду работнікам рэкамендавана працаваць у марлевых павязках.**

Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

## Курсы валют НБ РБ

| | 1 лютага | 8 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 1210,00 руб. | **1220,00** руб. |
| Нямецкая марка | 575,11 руб. | **579,96** руб. |
| Літ | 302,42 руб. | **304,92** руб. |
| Расійскі рубель | 42,60 руб. | **42,84** руб. |
| Злоты | 295,77 руб. | **300,31** руб. |
| ЕЎРА | 1124,82 руб. | **1134,29** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1220 – 1240 руб. | **1210 – 1240** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 31.01 | 7.02 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | **1700** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6040 | **6642** |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | **2100** |
| Селядзец, 1 кг | 1250 | **1250** |
| Рыс, 1 кг | 460 | **460** |
| Грэчка, 1 кг | 470 | **470** |
| Цукар, 1 кг | 558 | **558** |
| Алей, 1 л | 670 | **670** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 670 | **670** |
| Маянэз, 200 г | 210 | **210** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1200 | **1200** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 420 | **420** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 370 | **360** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 180 | **180** |
| Капуста, 1 кг | 130 | **150** |
| Лімоны, 1 кг | 1300 | **1300** |
| Апельсіны, 1 кг | 1050 | **980** |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Смятана, 1 л | 1000 | **900** |
| Масла, 1 кг | 1800 | **1800** |
| Тварог, 1 кг | 900 | **1000** |
| Малако, 1,5 л | 350 | **400** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | **900** |
| Бульба, вялікае вядро | 800 | **700** |
| Морква, 1 кг | 250 | **250** |
| Яблыкі, 1 кг | 380 | **350** |

■ «РГ»–СТАТЫСТЫКА

## У рэгіёне 4200 беспрацоўных

| | Колькасць беспрацоўных на 1 лютага | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1408 (+191) чал. | 2,4% |
| Маладзечанскі раён | 252 (+32) чал. | 1,0% |
| Астравецкі раён | 355 (+20) чал. | 2,5% |
| Ашмянскі раён | 190 (+27) чал. | 1,0% |
| Валожынскі раён | 172 (-22) чал. | 0,9% |
| Вілейскі раён | 487 (-1) чал. | 1,5% |
| Мядзельскі раён | 237 (-58) чал. | 1,3% |
| Смаргонскі раён | 1099 (-247) чал. | 3,3% |

**Усяго па рэгіёне: 4200 (-58) чалавек.**

У дужках паказана змяненне ў колькасці беспрацоўных з публікацыяй не месячнай даўнасці, як звычайна, а гадавой. Агульная колькасць беспрацоўных у рэгіёне зменшылася, дзякуючы Смаргоншчыне. Хаця па стане на 1 снежня, у рэгіёне яна складала 3980 чалавек.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ РЫНАК ПРАЦЫ

## Перасяленцы едуць у вёску

**ВАЛОЖЫН. Летась у раён на пастаяннае месца жыхарства прыехалі 46 чалавек. У 1999 годзе гэты паказчык склаў 93 чалавекі.**

Асноўныя перасяленцы – карэнныя беларусы, якія нарадзіліся ці калісьці ў жылі. З замежных грамадзян найбольш рускіх і ўкраінцаў, у апошні час прыязджаюць казахі. Ёсць адзінкавыя перасяленцы з Узбекістана і Таджыкістана.

Асноўны прытулак яны знайшлі ў сельскай мясцовасці: там лягчэй з жыллём і работай.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## За здадзенае малако аддзячылі тэлевізарамі

**МЯДЗЕЛ. На Нарачанскім масласырзаводзе ўзнагароджвалі лепшых па закупе малака ад насельніцтва. Па халадзільніку атрымалі старшыні Свірскага пасялковага савета Яўгенія Вайгяніца і калгаса "Канстанцінава" Уладзімір Губскі.**

А малака больш за ўсіх здаў **Казімір Протас** – больш за 11 тон. Ад яго трох кароў – Белкі, Ласухі і Чабурашкі – прадалі малака столькі, як ад 6 калгасных кароў (у лепшых гаспадарках) ці 19 (у горшых). За гэта гаспадар атрымаў каляровы тэлевізар.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# «Зачыстка» у Вілейцы

**Замест каментарыя да кадравых перастановак у Вілейскай вертыкалі**

ВІЛЕЙКА. Адстаўка **Пятра Юдо** і каманды, звязанай з ім, была прадказальнай для большасці віляйчан. Хіба што сам віцэ–старшыня пра гэта не здагадваўся.

Поўны развал гарадской эканомікі, няздольнасць наладзіць функцыянаванне гарадской гаспадаркі прывялі да таго, што адзін з самых эканамічна моцных гарадоў Мінскай вобласці – з развітай інфраструктурай, адукацыйным сектарам – апынуўся ў апошніх радках статыстычных справаздач. Але гэта не галоўнае. Гараджане сталі кінутымі. Або, як цяпер кажуць, "іх кінулі", і "кінула" іх гарадское начальства.

Праўда, калі я кажу, што Пётр Юдо не здагадваўся пра перспектыву у вертыкалі, што мае адбыцца, я хітрую. Ведаў. І толькі дзеля гэтага вылучаў сваю кандыдатуру ў парламент, каб затым схавацца ад адказнасці за бяздзейнасць. Прыгадайце пісьмо гаражаніна **Міхаіла Субача** пасля выбараў, апублікаванае ў "РГ". У адным тады пралічыўся Пётр Міхайлавіч. Віляйчане не захацелі падзяліць з ім адказнасць за яго грахі і проста не прагаласавалі за функцыянера.

Паказальна, што Юдо ідзе ў адстаўку ў адзін час з **Яўгенам Наздраценкам**, губернатарам Прыморскага краю ў Расіі, які не раз бываў у гасцях у "начальніка" Вілейкі. Часам абменьваліся досведам. Вось толькі ў Наздраценкі хапіла смеласці самому пайсці ў адпачынак, а Пётр Юдо дачакаўся "разбору свайго палёту" абласным начальствам, якому надакучылі скаргі віляйчан і ціск зверху.

Пераемніку Юдо, хто б ён ні быў, будзе цяжка. Пустая казна, халодныя батарэі ў кватэрах, банкруцтва завода "Зеніт", які ў ранейшыя часы быў галоўным бюджэтаўтваральным прадпрыемствам горада і з якога нядаўна сышоў чарговы дырэктар, не змогшы хоць як аздаравіць сітуацыю. Пры тым, невядома, ці доўга яшчэ будзе кіраваць вертыкаллю раёна **Іван Шнітоўскі**. Але магу сказаць адно. Аўтарытэт новы гарадскі начальнік зможа заваяваць толькі ў тым выпадку, калі сапраўды будзе імкнуцца наладзіць жыццё ў горадзе і не стане, як яго папярэднік, цурацца гаварыць з простымі гараджанамі.

Зачыстка ў Вілейцы – сведчанне, з аднаго боку, немагчымасці "вярхоў" трываць бяльмо ў сваім воку, якім апошнім часам стала Вілейка, з іншага – паказчык вырашэння агульнага крызісу ў дзяржаве шляхам адміністрацыйных мер. Гэта мала абнадзейвае, але горш віляйчанам ад гэтага наўрад ці стане.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Правы чалавека

**Матэрыялы падрыхтаваныя Маладзечанскім аддзяленнем РГА БХК**

■ ВЫБАРЫ

## Усё вяртаецца на кругі свае

**МАЛАДЗЕЧНА. Згодна з рашэннем пракуратуры рэспублікі, матэрыялы па выніках выбараў у палату прадстаўнікоў па Маладзечненскай выбарчай акрузе №86 будуць пераправераныя.**

Правесці даследаванне па фактах грубага парушэння выбарчага заканадаўства і фальсіфікацыі вынікаў было даручана пракуратуры Мінскай вобласці. Яна, у сваю чаргу, перадаручыла гэта пракуратуры горада Маладзечна. Такім чынам, па другім крузе?

**Прэс–служба РГА БХК.**

■ АДУКАЦЫЯ

## Куды ж мы так дойдзем?

**МАЛАДЗЕЧНА. Гарадская арганізацыя Таварыства Беларускай Мовы імя Францыска Скарыны атрымала з гарадскога аддзела адукацыі адказ на свой запыт аб стане беларускай адукацыі ў горадзе.**

З яго вынікае, што за перыяд з 1995 па 2000 гады агульная колькасць беларускамоўных класаў скарацілася з 59% да 37%. Прынамсі, у некаторых школах увогуле няма ніводнага беларускамоўнага класа.

Падобная сітуацыя складаецца і ў дзіцячых садках. За пяць мінулых год агульная колькасць беларускамоўных груп скарацілася з 82% (1995 г.) да 67% (1999 г.).

Маладзечна адмаўляецца ад роднай мовы?

**Эдвард БАЛАНЧУК.**

■ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

## Прыйшоў час аб'яднацца

**МАЛАДЗЕЧНА. Больш за дваццаць прадпрымальнікаў дробнарознічнага і рознічнага гандлю 2 лютага прыйшлі ў гарвыканком, каб высветліць шэраг пытанняў, што ўзніклі пасля ўвядзення Мінскім аблвыканкомам (а затым і мясцовымі ўладамі) 5-працэнтнага падатку на продаж.**

Пытанні тычыліся недасканаласці механізму ўвядзення гэтага падатку, пераліку тавараў (шырокага, але не канкрэтнага) і суб'ектаў гаспадарання, падлеглых падатку.

– Мы не супраць, каб вы стварылі свой прафсаюз, – зазначыў першы намеснік старшыні маладзечанскага гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**. – І самі лічым, што прыняты падатак недасканалы. Гэта ў выніку адаб'ецца на пакупніках. Адмяніць гэтае рашэнне не можам, але ў нашых інтарэсах як мага хутчэй вырашыць усе пытанні па пераліку тавараў і г. д. Мяркую, справімся за тыдзень-два і спадзяюся на вашу дапамогу. Мы гатовыя да дыялогу.

Па кансультацыю прадпрымальнікі звярнуліся ў Маладзечанскае аддзяленне РГА БХК, дзе на пытанні адказалі **Эдвард Баланчук і Віктар Грузін**.

Дваццаць тры прадпрымальнікі падпісаліся пад рашэннем аб стварэнні аб'яднання дзеля абароны сваіх інтарэсаў і правоў.

**Аддзел інфармацыі Маладзечненскага аддзялення РГА БХК.**

**Віншуем з днём нараджэння старшыню РГА Беларускі Хельсінкскі Камітэт Таццяну Сяргееўну Процьку!**

*Няхай часцей гучыць у Ваш адрас слова "дзякуй",*
*Няхай часцей усмешка асвятляе твар,*
*І калі раптам, усё ж, захочацца паплакаць,*
*Калі то з радасці – тады няхай!*

Жадаем, каб жыццё прыносіла Вам толькі прыемныя сюрпрызы, каб людзі і далей прыходзілі ў захапленне ад той мужнасці і стойкасці, з якой Вы абараняеце іх правы. Здароўя! Дабрабыту! Шчасця!

*Маладзечанскае аддзяленне РГА БХК.*

# Беларусь у небяспецы... інфармацыйнай

**М. Пастухоў, доктар юрыдычных навук, кіраўнік Цэнтра прававой абароны СМІ пры ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў".**

Такое ўражанне складваецца пасля прачытвання законапраекта "Аб інфармацыйнай бяспецы"

У апошні час беларускія ўлады праяўляюць непакой з прычыны таго, што дастаянем галоснасці сталі напрацоўкі аднаго з законапраектаў аб так званай інфармацыйнай бяспецы. Першы варыянт гэтага дакумента "знайшоўся" у Санкт–Пецярбурзе, дзе ў кастрычніку 2000 года праводзілася навуковая канферэнцыя па тэме "Канцэптуальныя праблемы інфармацыйнай бяспекі ў Саюзе Расіі і Беларусі". Там з дакладам выступіў начальнік Упраўлення інфармацыйных рэсурсаў і тэхналогій Сакратарыята Савета Рэспублікі А. Новік. Ён і распавёў пра апошнюю заканатворчую навінку – праект закона "Аб інфармацыйнай бяспецы". Арганізатары канферэнцыі ўвекавечылі яе ў матэрыялах, на якія пакуль яшчэ можна спасылацца.

У першапачатковым выглядзе праект выклікаў у беларускіх журналістаў і юрыстаў цяжкае ўражанне. З гэтай прычыны Беларуская асацыяцыя журналістаў 23 студзеня звярнулася з адкрытым лістом да беларускай і міжнароднай грамадскасці "Беларусь вядуць у зону "маўклівасці". Змест праекта падвергся рэзкай крытыцы на старонках практычна ўсіх недзяржаўных выданняў. І не без падстаў, паколькі ад гэтага дакумента павеяла "халоднай вайной", калі ішла актыўная барацьба з "іншадумствам", нагняталася істэрыя "шпіёнаманіі", усюды бачыліся "ідэалагічныя дыверсанты".

Пасля "уцечкі" гэтай важнай інфармацыі беларускія ўлады паспрабавалі адмежавацца ад згаданага заканапраекта і прапанавалі ўсхваляванай журналісцкай брацыі больш памяркоўную версію. Не забываючыся накіраваласці і зместу першага ўзору заканатворчасці, дадзім кароткі аналіз апошняй гэтай версіі.

Галоўная задача закона застаецца ранейшай – забяспечыць інфармацыйную бяспеку краіны шляхам здзяйснення комплексу арганізацыйных і прававых мер (арт. 1).

Хто ж пагражае інфармацыйнай бяспецы Беларусі? Хто робіць замах; гаворачы моваю законапраекта, на прыярытэты інфармацыйнай бяспекі: развіццё дэмакратычных інстытутаў грамадства, памнажэнне маральных і духоўных каштоўнасцяў беларускага народу, нацыянальных і культурных традыцый, на забеспячэнне дастойнага прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у сусветнай супольнасці, на забеспячэнне прагрэсіўнага сацыяльна–эканамічнага развіцця краіны, устойлівага функцыянавання яе дзяржаўных інстытутаў?

Мне здаецца, што такіх ворагаў інфармацыйнай бяспекі шукаць не трэба. Яны і цяпер вядомыя грамадству. Гэта тыя людзі ад улады, якія ігнаруюць вышэйназваныя прыярытэты нацыянальнай і інфармацыйнай бяспекі.

Пры ўсім жаданні грамадзяніну ў адзіночку (нават у складзе групы) не ўдасца падарваць дэмакратычныя інстытуты грамадства, а тым больш, маральныя і духоўныя каштоўнасці беларускага народу (мову, культуру і інш.)

Трэба прызнаць, што пасля дапрацоўкі з законапраекта выключаныя многія адыёзныя тэрміны (тыпу "інфармацыя крытычная", "інфармацыйная вайна", "рызыка парушэння інфармацыйнай бяспекі"). Аднак і ў апошняй рэдакцыі лексіка дакумента, па–ранейшым, застаецца далёка не прававой. Ключавымі з'яўляюцца такія тэрміны, як "абарона інфармацыі", "канфідэнцыяльнасць", "аб'ект інфарматызацыі", "ахоўваемая інфармацыя", "сістэма інфармацыйнай бяспекі".

Гэтыя і іншыя тэрміны ўскосна раскрываюць задумкі распрацоўшчыкаў законапраекта: засакрэціць як мага больш інфармацыі, абмежаваць да яе доступ, увесці асобы рэжым абыходжання з інфармацыяй, арганізаваць дзяржаўную службу кантролю за інфармацыйнымі плынямі. Па сутнасці, гэта азначае ўвядзенне татальнай цэнзуры ў беларускім грамадстве. Прыняцце падобнага закона можа прывесці да таго, што інфармацыя з агульнай плыні звестак пра жыццё грамадства, дзяржавы, міжнароднай сітуацыі стане важным элементам нацыянальнай бяспекі. Грамадзянам інфармацыя будзе выдавацца дазіравана, амаль як лякарства пасля прадастаўлення адпаведнай даведкі. Астатняя ж інфармацыя будзе схаваная ад грамадства ў нетрах "дзяржаўнага інтэрнета".

Пераследуючы мэту забяспечыць інфармацыйную бяспеку, распрацоўшчыкі законапраекта прапануюць у дадатак да Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь надзяліць грамадзян цэлым пералікам правоў, у прыватнасці: правам на абарону ад прапаганды гвалтоўнага змянення канстытуцыйнага ладу, вайны, сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці; правам на абарону ад інфармацыйных уздзеянняў, якія пагражалі б іх жыццю і здароўю.

А навошта нам, грамадзянам Рэспублікі Беларусь, гэтыя пустыя і нічым не забяспечаныя правы? Мне асабіста яны не патрэбныя. Няхай дзяржава забяспечыць хаця б тыя, якія замацаваныя ў Канстытуцыі. Пры гэтым зразумела, што дзяржава (дакладней, цяперашняя ўлада) абараняе свае інтарэсы, імкнучыся пазбавіць грамадства доступу да інфармацыі на падставе забеспячэння нейкай абстрактнай інфармацыйнай бяспекі.

"Двайны стандарт" распрацоўшчыкаў праекта наглядна відаць у норме, якая замацоўвае асноўныя накірункі дзейнасці дзяржавы "па рэалізацыі правоў і свабод суб'ектаў інфармацыйнай сферы". Аказваецца, не ў сваіх інтарэсах, а для абароны правоў і свабод гэтых самых суб'ектаў дзяржава будзе забяспечваць прадухіленне, нейтралізацыю і лакалізацыю наступстваў распаўсюджвання няпоўнай, недакладнай і скажонай інфармацыі; рэгуляваць і выкарыстоўваць агульнадаступныя крыніцы інфармацыі і сродкі масавай інфармацыі ў мэтах прадухілення распаўсюджвання матэрыялаў, якія прапагандуюць насілле, антыграмадскія паводзіны і зневажаюць грамадскую мараль; распрацоўваць формы і спосабы дзяржаўнага і грамадскага кантролю за фарміраваннем у грамадстве духоўных каштоўнасцяў, якія адпавядаюць нацыянальным інтарэсам, выхаванню патрыятызму і грамадзянскай адказнасці.

Звяртаюць на сябе ўвагу "рызінавыя" фармулёўкі, якімі стракацяць законапраект: "нейтралізацыя і лакалізацыя наступстваў", "антыграмадскія паводзіны", "якія зневажаюць грамадскую мараль", "якія адпавядаюць нацыянальным інтарэсам". Іх можна тлумачыць на любы густ, а дакладней – у адпаведнасці з палітычнымі ўстаноўкамі ўладаў.

Шырокія магчымасці для абмежавання свабоды інфармацыі адкрывае і другая норма праекта, у якой замацоўваюцца асноўныя накірункі дзейнасці дзяржавы "па назапашванні, эфектыўным выкарыстанні і абароне інфармацыйных рэсурсаў".

Аўтары мяркуюць на ўвазе стварыць адзіны дзяржаўны рэестр інфармацыйных рэсурсаў, арганізаваць дзяржаўны кантроль за стварэннем, выкарыстоўваннем і абаронай сістэм і сродкаў збору і апрацоўкі, захоўвання і перадачы ахоўваемай інфармацыі, прадухіляць пранікненне або неэфектыўнае выкарыстанне інтэлектуальнага патэнцыялу ў інфармацыйнай сферы; распрацаваць новыя сродкі абароны інфармацыі і інш.

Для забеспячэння бяспекі інфармацыйнай інфраструктуры прапануецца ўвесці ліцэнзаванне дзейнасці юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў у галіне абароны інфармацыі, праводзіць атэстацыю аб'ектаў інфарматызацыі, развіваць нацыянальныя сістэмы сертыфікацыі сродкаў абароны інфармацыі і кантролю і да т. п.

Распрацоўшчыкі праекта так рассмакаваліся ў заканатворчасці, што асмеліліся паставіць перад дзяржавай эпахальную задачу: пераадолець тэхналагічную залежнасць дзяржавы ў інфармацыйнай сферы. І прыдумалі нават праграму ліквідацыі "тэхналагічнай адсталасці". Адзінае, што забыліся ўказаць – гэта тэрмін. Засталося няясным, за колькі пяцігодак беларуская дзяржава павінна рашыць гэтую задачу.

У прапануемым законапраекце пабудаваная цэлая сістэма інфармацыйнай бяспекі з яе арганізацыйнай субпадпарадкаванасцю, пачынаючы ад прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і заканчваючы юрыдычнымі і фізічнымі асобамі, якія ажыццяўляюць дзейнасць у сферы інфармацыйнай бяспекі. Больш за тое, вызначаныя шматлікія функцыі гэтай сістэмы, уключаючы абарону ахоўваемай інфармацыі, ліцэнзаванне дзейнасці юрыдычных асоб, атэстацыю аб'ектаў інфарматызацыі. Але самае небяспечнае ў гэтай штучна створанай "сістэме" тое, што мае мэтай выяўленне і прагназаванне ўнутраных і знешніх пагроз.

Што, зноў пошук ворагаў, унутраных і знешніх, яўных і схаваных? З якіх гэта часоў Беларусь аказалася ў коле варожага інфармацыйнага поля? Каму патрэбныя законы, каб зноў пачаць барацьбу з "іншадумствам", з ідэалагічнымі ворагамі дзяржавы?

Калі цяперашняй уладзе спатрэбілася легальная база для выяўлення і нейтралізацыі ўнутраных і знешніх пагроз (чытай – "ворагаў"), то такі закон сам уяўляе небяспеку для беларускага грамадства. Яшчэ адну масавую чыстку Беларусь не вытрымае. Лепш не дапусціць такога эксперыменту ўладаў над народам. Меч "справядлівага правасудздзя", як гэта часта здаралася, абрынецца на галовы незадаволеных рэжымам, а ворагаў знойдуць там, дзе іх не было.

Тым больш, што па задуме распрацоўшчыкаў, у ліку "спецыяльна ўпаўнаважаных дзяржаўных органаў" у сферы інфармацыйнай бяспекі значыцца Камітэт дзяржаўнай бяспекі. У сілу спецыфічных формаў і метадаў дзейнасці яму зручней "выяўляць і прагназаваць унутраныя і знешнія пагрозы інфармацыйнай бяспекі" і тых, хто стварае гэтыя пагрозы.

* * *

Часу для разважанняў у беларускай грамадскасці застаецца мала: у адпаведнасці з планам законапраектнай дзейнасці, зацверджаным кіраўніком дзяржавы ў студзені гэтага года, законапраект "Аб інфармацыйнай бяспецы" плануецца ўнесці на разгляд Палаты прадстаўнікоў ужо ў гэтым месяцы. Трэба меркаваць, ён вельмі патрэбны напярэдадні будучых прэзідэнцкіх выбараў.

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Міліцыянер страляў на паражэнне

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу, каля 20.30, работнік міліцыі прымяніў у горадзе табельную зброю.**

Інцыдэнт адбыўся ў раёне Старога Места. Два работнікі міліцыі ўбачылі п'янага чалавека, запатрабавалі дакументы. Мужчына хацеў уцячы. Пасля некалькіх папераджальных стрэлаў адзін з міліцыянераў стрэліў на паражэнне.

Паранены мужчына цяпер знаходзіцца ў бальніцы, узбуджаная крымінальная справа, якую вядзе Маладзечанская міжрайпракуратура. У працэсе расследавання трэба будзе даць ацэнку правамернасці дзеянняў міліцыянера і жыхара горада. Міжрайпракурор **Генадзь Вештарт** лічыць, што расследаванне працягнецца каля двух месяцаў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Маку «Жыгулях»

**АШМЯНЫ. Паўтара кілаграма выбраленай макавай саломкі знайшлі супрацоўнікі ДАІ ў багажніку "Жыгулёў", якія належаць беспрацоўнаму жыхару Кальчунаў.**

Што збіраўся рабіць і куды накіроўваўся наркакур'ер з партыяй наркасыравіны, высвятляюць следчыя.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Пагранічнік хабар не ўзяў

**СМАРГОНЬ. Начальнік аддзела Смаргонскага пагранатрада "дапамог" аднаму з жыхароў суседняй краіны мець праблемы з крымінальным кодэксам.**

Літовец звярнуўся да пагранічніка, каб той пасадзейнічаў яму вярнуць трактар "Беларусь", які быў затрыманы нашымі мытнікамі за няправільнае афармленне дакументаў на вываз транспартнага сродка. Зварот да пагранічніка не абышоўся без долараў ЗША, прапанаваных у якасці ўзнагароджання за турботы.

Пракуратура раёна кваліфікуе гэта, як хабар. Напярэдадні ў літоўца суд.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Трэцяя дамашняя нічыя

**03.02 Металург-JP – Хемікс (Мінск) 2:2 (1:1)**

**Галы**: Янель (12), Гарнастаеў (38); (17), (26).

**Склад**: Кіркіж; Кузняцоў, Сіткевіч, Снятко, Янель; Агейчык, Казяк, Складаноўскі, Шаўчэнка; Гарнастаеў, Гружэўскі, Бахур.

Каманды дзейнічалі асцярожна, імкнучыся злавіць адзін аднаго на контратаках. Разам з тым дзеянні ў абароне не вызначаліся належнай шчыльнасцю, і небяспечныя моманты раз-пораз узнікалі. Больш спрыяльных магчымасцяў было ў гаспадароў.

Асабліва не шанцавала **Янелю**, які праводзіць не лепшы свой сезон. Напрыклад, у адным з момантаў ён выйшаў сам-насам з галкіперам сапернікаў **Гурынчыкам** і прабіў нізам у нагу таму. Запомніліся эпізоды, калі ўжо быў пакінуты па-за справамі **Кіркіж**, і **Сіткевічу**, а ў другім тайме **Шаўчэнку** давялося ў падкаце перашкаджаць мячу шлях у вароты. Двойчы ратаваў сам **Кіркіж**, хаця можна адзначыць нейкую яго няўпэўненасць пры нізавых моцных ударах гульцоў "Хемікса".

Самае цікавае для гледачоў пачалося ў сярэдзіне другога тайма, калі маладзечанцы вымушаныя былі адыгрывацца. А дагэтуль галы забіваліся так.

**Кузняцоў** на правым фланзе адметным фінтом перайграў апекуна, пракінуў мяч у плошчу варот, дзе і яго, і Гурынчыка апярэдзіў Янель. 1:0.

Удар з цэнтральнай зоны быў моцны, з невялічкім рыкашэтам, што прымусіла Кіркіжа прапусціць каля ног. 1:1.

Сіткевіч і **Снятко** не выкарысталі небяспечную атаку, а ў "абаротцы" мінчане пакаралі. 1:2.

Маладзечанцы значна паднялі свае хуткасці, гол у вароты больш стомленых гасцей відавочна наспяваў. Аднак забіць яго ўдалося ўжо напрыканцы гульні. Пасля серыі рыкашэтаў **Гарнастаеву** трэба было не прамахнуцца па пустых варотах з васьмі метраў. 2:2. Часу, каб вырваць перамогу, не хапіла. Спадзяванні, што суддзі дадуць гасцям шосты фол, не мелі пад сабой рэальных падстаў у выглядзе гэтых самых фалоў.

Энергетык – Дарожнік 4:9, Белаўтасервіс – БДПА 11:5, ЦКК – Верас 3:5, Віцязь – МАПІД 4:14, МЭСР – Гарняк 2:3.

| | |
|---|---|
| 1.Сімург (-1) | 33 |
| 2.Белаўтасервіс | 33 |
| 3.Дарожнік | 31 |
| 4.Металург-JP | 31 |
| 5.Хемікс | 28 |
| 6.МАПІД | 23 |
| 7.Верас | 22 |
| 8.ЦКК | 15 |
| 9.Энергетык | 14 |
| 10.Гарняк | 13 |
| 11.МЭСР | 13 |
| 12.Віцязь | 8 |
| 13.РТІ (-1) | 7 |
| 14.БДПА | 4 |

**Бамбардзіры**: Лагутка (Белаўтасервіс) – 34; Дзядзюля (Дарожнік) – 30...**Янель** – 16.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЛАВАННЕ

## Маладзечанскія плыўцы імкліва набіраюць добрую форму

**МІНСК. Гэтымі днямі ў сталіцы праходзіць асабіста–каманднае першынство краіны.**

Маладзечанка **Анастасія Лях** (трэнеры **У. Антонаў і Л. Крывецкая**) выйграла дыстанцыю 200 м брасам, пры гэтым палепшыла свой асабісты вынік на 3 (!) секунды – 2:33,0.

Маладзечанец **Віталь Барташэвіч** (трэнер У. Антонаў) выйграў 100 м брасам з вынікам 1:03,55. Ён таксама пабіў свой асабісты рэкорд, які ўстанавіў два тыдні таму на чэмпіянаце Мінскай вобласці – праўда, "усяго толькі" на 1 секунду.

**Сяргей Канарэйкін** (трэнер У. Антонаў) заняў два чацвертыя месцы.

Каманда Мінскай вобласці, пасля 2 дзён спаборніцтваў на 5 тысяч ачкоў адарвалася ад бліжэйшых праследвальнікаў. Сёння – рашаючы дзень.

**Юрый ІВАНІЦКІ.**

■ ФУТБОЛПРАГНОЗ

## Прагнозы першага раунда другой карзіны

Нягледзячы на вынік, усе каманды працягнуць барацьбу: у асноўным ці суцяшальным турніры. Прагнозы на наступны раунд мы павінны атрымаць да 13 лютага. Праграмкі і жараб'ёўка змешчаныя ў "РГ" №№4 і 5.

| | Першы матч | Матч у адказ |
|---|---|---|
| Факел | 2121012121 | 2122211222 211 |
| Калібр | x121x1x2x1 | 21xx101222 1x1 |
| Механік | 21x111xx01 | x111x1xx1x x11 |
| Хакер | 1111112222 | 120x1xx222 111 |
| Мілан–Я | 11x1110x1x | 2111x11212 111 |
| ФК Маладзечна | – | – |
| СК Лясныя | 2021112221 | 2122221222 211 |
| Фартуна–В | 1121112222 | 0111221222 111 |
| Мюнхен–1860 | 12x1x2x0xx | 21111122x2 x11 |
| Спартак | 11x111xx1x | x1x1xx1202 111 |
| Топік–2 | 0111111211 | 2111211222 111 |
| Баварыя | x12111xx11 | x111x11202 111 |
| МПТ | 0111111111 | 1111111111 111 |
| Пераменаў! | x1x1x1x21x | 1112211222 x11 |
| СЛП–2000 | 1111112201 | x11xx11222 111 |
| ЦСКА | 2121x1x22x | 2x1xx01222 x1x |
| ФК Сьера–Леоне | 01211x2x22 | 2x1xx12222 x11 |
| Скутэр | x121xx12x1 | 2x1110x212 111 |
| Манчэстэр–85 | – | – |
| Лестэр | 11211112x1 | 1211x11202 111 |
| Ультрас | 1121xx2011 | 12x2212x22 112 |
| Мілeніум | 212111x1xx | 21xx20x222 x1x |
| Рапід | 11x111x011 | 21111112x2 111 |
| Фартуна–А | 1111111111 | 0111111111 111 |
| Хутка Новы Год | 2x21x01x2x | 212x21x2x2 x11 |
| EAGLE-2 | – | – |
| Маладзечна–99 | – | – |
| Унтэрхахінг | 11x111xx11 | 2111111202 111 |
| ТПС | x101111212 | x111x11222 111 |
| Інтэр | 21x1x11211 | 0121xx12x2 111 |
| БІ–2 | 0111112212 | 11111112x2 111 |
| Барселона | 12xxx1x211 | 2111x102x2 11x |

**Юрый КАРПІЦКІ.**

Табло



■ ШАХМАТЫ

МАЛАДЗЕЧНА. Сёння, 9 лютага, пройдзе III "традыцыйны" рэгіянальны тэмпа–турнір. Пачатак у 17–30. Спаборніцтвы пройдуць у памяшканні шахматнага клуба "Папараць": Маладзечна, вуліца Забэйды–Суміцкага, дом 2. Тэлефануйце ў Маладзечна 71549, 54602.

ПЛАВАННЕ

МАЛАДЗЕЧНА. Гарадскі басейн "Маладосць" запрашае дзяцей і дарослых у групы аздараўленчага плавання (у дзённы і вячэрні час).

Т. у Маладзечне 53034, 53134, 54406.

■ МІНІ-ФУТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА. Спартзала ЗМК прымала ўдзельнікаў занальнага абласнога турніру. Лепшая каманда атрымлівала права на выхад у фінальную стадыю, што пройдзе ў сакавіку. На жаль, не прыехалі мядзельцы.**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1.Маладзечна | ## | 6:0 | 3:1 | 4:1 | 9 |
| 2.Маладзечанскі раён | 0:6 | ## | 2:1 | 3:0 | 6 |
| 3.Вілейскі раён | 1:3 | 1:2 | ## | 5:4 | 3 |
| 4.Заслаўе | 1:4 | 0:3 | 4:5 | ## | 0 |

Пераможцаў трэніраваў **Анатоль Ішчанка**. У іх складзе вылучаліся **Генадзь Талькоўскі** (стаў лепшым бамбардзірам з 5 галамі) і **Андрэй Радкевіч**. Не бралі ўдзел ранейшыя лідэры каманды **Уладзімір Галубко** і **Аляксандр Чарняўскі**, значыць, на фінальным турніры змогуць узмацніць каманду. У іншых калектывах лепшыя былі **Леанід Лявончык** і **Мікалай Мятліцкі** (Маладзечанскі раён) і **Ігар Шабан** (Вілейскі раён).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

Выхаванцы **Леаніда Арцем'ева**, **Пятра Лісоўскага** і **Юрыя Спіцына** з маладзечанскай ДЮСШ-1 адзначыліся добрымі вынікамі на рэспубліканскіх турнірах.

15-17. 01, Мінск, юніёры (18-19 год)

3. **Аляксандр Жаўняровіч** (400 м)

3. **Дзмітрый Паслед** (5000 м)

3. **Вольга Грыневіч** (1500 з перашкодамі)

19-20.01, Гомель, дарослыя

1. **Васіль Дзярачыц** (3000 з перашкодамі)

25-27.01, Мінск, юнакі (16-17 год)

3. **Алена Куцкевіч** (1500 з перашкодамі)

Адметна выступілі **Павел Соніч** (1500 м і 3000 м) і **Вадзім Кашалевіч** (60 м і 200 м)

25-27.01, Гомель, юнакі-мнагаборцы

1. **Таццяна Майсеева** (пяціборства)

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**10.02 Верас (Нясвіж) – Металург-JP**

+1=1-1 11-10. У першым крузе 3:1 (Гружэўскі, Сіткевіч, Янель) дома.

■ МЕРКАВАННЕ

## Яшчэ адзін палявы?

Каментатар футбольнага матча:

– Свісток. У чым справа? Няўжо пенальці? Так, але ж абаронца нават не дакрануўся да нападаючага, як той упаў на газон.

У наш час можна прыводзіць багата прыкладаў, калі суддзя на футбольным полі, у большасці выпадкаў, адзін вырашае вынік сустрэчы. Гэта калі браць увогуле міжнародныя турніры і г. д. Хаця не варта далёка хадзіць, бо звычайна назіральнікам за спортам №1 у свеце, па сутнасці, усё адно, атрымае перамогу ў фінале якога–небудзь турніру Бразілія або Іспанія. Магчыма, акрамя роспачы, што зборная ці каманда, за якую хваляваўся, прайграла, мы больш нічога не атрымаем. Ну, а што рабіць? Значыць, так каму–небудзь трэ было.

Цяжэй гэта ўспрымаецца, калі сам удзельнічаеш, ды і не ў чэмпіянаце свету, а ў простых раённых спаборніцтвах, і цябе дураць на кожным кроку. Здаецца, няма нашым суддзям за чым бегчы, бо якія яны тут атрымаюць грошы і ад каго. Але не, усё адно, трэба дапамагчы знаёмым, сябрам, каб потым, магчыма, разам парагатаць, што яны перамаглі. Пры гэтым зусім не думаючы пра тое, што гэта несапраўднае чэмпіёнства, што гэта чарговая спартыўная афера, якая не прыносіць аніякага задавальнення. Тады, можа, лепей увогуле не праводзіць спаборніцтвы, бо і так вядома, хто павінен атрымаць перамогу?

Але не трэба, вядома, так адназначна гаварыць пра нашае рэгіянальнае судзейства, бо ёсць, ёсць яшчэ і такія людзі, якія сумленна выконваюць сваю справу. Але і іх ужо ўсё менш і менш. А хутка ўвогуле не стане. Ад гэтага, вядома, турніры не знікнуць, а будуць рэгулярна праходзіць, і мы будзем удзельнічаць, бо так нам усім трэба. Справа ў тым, што існуе ў думках нашых людзей слова "а раптам", якое цягне да дзейнасці, да працы, да ўдзелу. Але "раптам" толькі нешта іншае здараецца, усё астатняе – заканамернасць і ўплыў знешніх сіл: фартуны, псіхалагічнага настрою і... судзейства.

Пра якое развіццё спорту ў рэгіёне можа ісці размова, калі ў большасці выпадкаў турнір застаецца за камандай гаспадароў (залежыць не ад таго, што яна так выдатна гуляе дома) або за камандай з той жа мясцовасці, адкуль і нашы "паважаныя" суддзі. І гэта тычыцца не толькі футбола, бо такія своеасаблівыя мерапрыемствы можна сустрэць ва ўсіх відах спорту. Для трэнера галоўнае – каб суддзя быў знаёмы, і ён ужо можа ісці святкаваць перамогу яшчэ да пачатку спаборніцтваў.

Як з гэтым змагацца? А ніяк. Гэта так удала ўвайшло ў жыццё, што змагацца ўжо выйшаў час. Так запланавана, такое сучаснае наша жыццё, такія людзі. Усё ў поўным парадку, бо галоўнае – не перамога, а галоўнае – удзел!

**Андрэй САРОКІН.**

■ МІЖСЕЗОННЕ

# ФК «Маладзечна»: недастатковае фінансаванне

**МАЛАДЗЕЧНА. Мясцоваму ФК цяпер хапае грошай толькі на тое, каб не спыняць трэніровачны працэс. Выязджаць на турніры (былі ў планах Магілёў і Наваполацк), альбо арганізоўваць іх у сябе сродкаў няма.**

Такім чынам, ідзе гаворка пра зрыў перадсезоннай падрыхтоўкі. Калі ў студзені можна было абмежавацца аднымі трэніроўкамі, то чым бліжэй чэмпіянат, тым больш узнікае патрэба ў гульнявой практыцы. Гэта што тычыцца камандных спраў, не кажучы пра тое, што за студзень ніхто з футбалістаў зарплаты пакуль не атрымаў.

**03.02 Маладзечна – Зорка-ВА-БДУ (Мінск, Д2) 1:2**

Мінск, снег.

**Галы**: першы тайм – 0:2, Турчыновіч (80).

**Склад**: Сцепановіч, Рагуновіч, Муравейнікаў, Сысой, Кабельскі, Азаронак, Вільтоўскі (Тартоўскі, 46), Крывіцкі, Міpановіч, Турчыновіч, Макрыцкі.

**03.02 Маладзечна (дубль) – Зорка-ВА-БДУ-2 1:1**

Мінск, снег, 2 таймы па 40 хвілін.

**Галы**: Чарнель (73); (60).

У складзе дубля гуляў Віталь Варатнікоў (1982 г. н.), які мае досвед выступленняў за "Смаргонь".

## «Смаргонь» і «Забудова» ў Гродне

Гродзенскі турнір праводзіцца па кругавай сістэме з удзелам шасці каманд. Акрамя нашых землякоў, гэта яшчэ "Нёман" (Гродна; у складзе футбалісты, якія прыбылі на прагляд у "Нёман-Белкард"), "Нёман" (Масты, Д2), ФК "Ліда" (Д2), СК "Ваўкавыск" (абласны чэмпіянат). Меркавалася, што каманды пачнуць гуляць у аўторак, аднак адбыўся перанос на два дні, выкліканы жалобай у сувязі са смерцю старшыні аблвыканкома Аляксандра Дубко. Матчы будуць праходзіць штодня.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Гараскоп 12 – 18 лютага



**Авен**
(21.03–20.04)

Магчымасці для паляпшэння фінансавага становішча. Сустрэча з дзелавымі партнёрамі прынясе добрыя вынікі. Тыдзень будзе насычаны рознымі справамі і клопатамі.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Каб пазбегнуць хваляванняў на рабоце і абвастрэння стасункаў з начальствам, трэба будзе выкарыстаць усе свае дыпламатычныя здольнасці. Знайдзіце разумны кампраміс ва ўрэгуляванні ўзніклых праблем.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Поспех у бізнесе. Напружаная работа прымусіць шукаць магчымасці для адпачынку, які будзе ў вас не дома, а ў рэстаране ці, скажам, спартыўнай зале.



**Рак**
(22.06–23.07)

Зможаце многага дабіцца на прафесійнай ніве ў першай палове тыдня. Самы час зрабіць прызнанне ў сваіх пачуццях таму, хто даўно запаланіў ваша сэрца.



**Леў**
(24.07–23.08)

Акажацеся ў палоне вельмі смелых ідэй, якія могуць атрымаць падтрымку ў партнёраў па бізнесе. У Львоў творчых прафесій перыяд пад'ёму.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Давядзецца панервавацца з–за складанасцяў у выкананні аднаго з важных дзелавых праектаў. Не бойцеся звяртацца па дапамогу да спецыялістаў і ва ўсім прытрымлівайцеся іх парад.



**Шалі**
(24.09–23.10)

Калі ва ўсім будзеце слухацца парад сяброў, даб'ецеся многага. Тыдзень будзе паспяховы для дасягнення фінансавых мэтаў. Вашы даходы значна павысяцца.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

Трэба змяніць напрамак сваіх задум. Давядзецца пераадольваць цяжкасці ў стасунках з калегамі па рабоце, знаходзіць з імі агульную мову і ўзаемаразуменне.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Самыя важныя пытанні лепш за ўсё вырашаць у сераду ці чацвер. Не забывайце старэйшых па ўзросце сваякоў, якім цяпер як ніколі патрэбныя вашы дапамога і падтрымка.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Калі сур'ёзна паставіцеся да работы, удвая павялічыце свае даходы. Вайскоўцы, супрацоўнікі праваахоўных органаў і чыноўнікі дзяржарганізацый пачуюць добрыя навіны.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

Разлічвайце на дапамогу родных і сяброў, якія пасадзейнічаюць выкананню важнай работы і пераадоленню цяжкасцяў. Некаторыя Вадалеі–журналісты ажыццяўяць даўнюю мару аб выхадзе ўласнай кнігі.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Любыя дзелавыя справы на гэтым тыдні будуць "асуджаныя" на поспех. Вы набудзеце ўпэўненасць у рабоце і не без дапамогі блізкіх сяброў выявіце новыя крыніцы даходаў.

## ■ КРЫЖАВАНКА

Ірына САХАЦКАЯ.



**Па гарызанталях: 1.** Невялікае перапончатакрылае насякомае, якое жыве вялікімі згуртаваннямі. **4.** Цяжкі кавальскі молат. **8.** Рашэнне суда, прыгавор. **10.** Прадмет мяккай мэблі для сядзення і ляжання. **11.** Амерыканскі і ўсходнеазіяцкі кракадзіл. **12.** Свойская малочная жывёліна. **15.** Высечаная дзялянка лесу. **17.** Караняплод з акруглым коранем светла–жоўтага колеру. **18.** Складаны арнамент з геаметрычных фігур і стылізаваных кветак. **19.** Паглыбленне пад зямлёй, часта з некалькімі хадамі, якое вырыта жывёлінай і служыць ёй жыллём. **20.** Дарога, мошчаная шчэбенем, а таксама ўсякая дарога з цвёрдым пакрыццём. **21.** Вандроўнік. **23.** У адносінах да замежных жанчын: форма ветлівага звароту. **25.** Невялікая азёрная рыба паўночнай Еўропы. **26.** Прадаўгаватая пасудзіна, збітая з дошак, якая звычайна выкарыстоўваецца для кармлення жывёлы. **28.** Падсвядомае прадчуванне чаго–небудзь, унутранае чуццё. **31.** Герой беларускіх казак, воін вялікай сілы. **32.** Сталіца Казахстана. **33.** Галоўны горад дзяржавы. **34.** Цыркавы гімнаст.

**Па вертыкалях: 2.** Невялікая частка, выдзеленая з якога–небудзь твора. **3.** Аэрапорт у Парыжы. **4.** Пляцоўка для гульні ў тэніс. **5.** Сярэбраная манета ў старажытнай Грэцыі. **6.** Работнік аптэкі. **7.** Ганарыстасць, адсутнасць павагі да каго–небудзь, чаго–небудзь. **9.** Паласа зямлі, прызначаная для язды і хадзьбы, якая злучае асобныя пункты мясцовасці. **10.** Палявая кветка (разм.). **13.** Род баяна з фартэпіяннай клавіятурай правай рукі. **14.** Фізік – спецыяліст па атамнай энергіі. **15.** У старажытнай і сярэдневяковай Русі: намеснік князя. **16.** Асоба, якая намячаецца для выбрання, назначэння або для прыёму куды–небудзь. **20.** Кандытарскі выраб – застылая маса какавы з цукрам. **21.** Крайні карэнны зуб (разм.). **22.** Закрыты з усіх бакоў чатырохколавы конны экіпаж на рысорах. **24.** Абрэзак, кавалак лыка, скуры і пад. **25.** Артыст, які выконвае сольную партыю. **27.** Музычны інтэрвал. **29.** Старажытнаскандынаўскае і старажытнаірландскае народнае эпічнае сказанне пра багоў і герояў. **30.** Умоўны графічны знак для запісу гукаў музыкі.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №5**

Дэльтаплан. Планка. Катамаран. Тамара. Невад. Ева. Дар, Аршын. Шынка. Калос. Лоскат. Катар. Ар.







## Паварушы мазгамі

**Якім Пярэчка ў тыднёвым адпачынку**

– Да сустрэчы праз тыдзень! – прасіў перадаць чытачам рубрыкі "Паварушы мазгамі" яе пастаянны вядучы. Ягоны кароткі адпачынак дасць магчымасць і вам набрацца ведаў і настойлівасці для новых заданняў. Пярэчка па–ранейшым чакае вашыя адказы!







## ■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

### Сяброўскія жарты

Да гэтага часу ганяюць машыны з замежжа. Аднойчы адзін з трох сяброў прыгнаў "Форд". Дастастаткова свежага года і добрага стану. Рашыў пафасоніцца перад сябрамі. А тыя – яго падсмяяць. Выехалі пракаціцца. Гаспадар за рулём.

Хлопцы падчас язды па горадзе пачалі падсмейваць. Маўляў, што ж яна ў цябе не едзе? Гаспадар казаў пра абмежаваную хуткасць у горадзе. Калі выехалі за межы горада, пачаліся яскравыя параўнанні з каровай, на якой едзеш значна хутчэй, іншыя кпіны. Так. Па–сяброўску. Гаспадар жа не зразумеў.

Калі "прыкольшчыкаў" уціснула ў сядзенні, а на спідометры яны ўбачылі лічбу 200, то сапраўды спалохаліся, бо на дарозе ляжаў тонкі лядок. А гаспадар, здаецца, не заўважаў ніякіх перашкод для язды. Хлопцы пачалі прасіцца. На што гаспадар сказаў, што машына і 250 можа даць. Паколькі амаль новая.

Калі прыехалі ў горад і выходзілі з машыны, адзін з хлопцаў, як бы дзякуючы, сказаў, што лепш нагамі хадзіць, чым на асле ехаць. А другі спытаўся:

– Можа, цябе папхнуць? Ці завядзецца гэтая калымага?

Адказам яму было шалёнае рыпенне колаў, і машына з вялікай хуткасцю паляцела шукаць добрыя словы для свайго гаспадара. Які прыгнаў такую цудоўную машыну.

### Жахлівая паездка

Гэтую гісторыю распавяла мне жонка майго суседа. З ім пасля чаркі робіцца незразумелае: ён усяго баіцца. Яна называе гэтую з'яву "шугняк". І аднойчы ў такім стане яму спатрэбілася некуды ехаць. І хутка. Разам з жонкай злавілі таксоўку. Паехалі. Сусед сядзіць, вочы долу, баіцца глядзець у акно. Але ж цікава, дзе едуць. А яны ехалі па дарозе, абсаджанай дрэвамі. І так яны яму замільгацелі, што здалося, хуткасць машыны – другая касмічная. А кіроўца – маньяк, які надумаўся знішчыць яго сям'ю.

І тады пасажыр са страху зароў на кіроўцу:

– Спыняйся хутчэй! Куды ляціш?! Забіць нас хочаш?!!

Здзіўленню таксіста не было межаў: на спідометры было 40 км/г. Але дарожныя знакі не дазвалялі стаць у гэтым месцы, і кіроўца працягваў ехаць. А сусед усё больш палохаўся:

– Спыняйся! Табе кажу! Куды гоніш?!!

Жонка небаракі пачала тлумачыць, што той крыху хвалюецца, бо першы раз сядзіць у машыне. Але таксіст бачыў перад сабою раз'юшанага пасажыра і хваляваўся. За сябе. Калі з'явілася магчымасць, таксі спынілася. Кіроўца нават не нагадаў пра грошы: такой жахлівай паездкі ён яшчэ не бачыў. А сусед таксама паспакайнеў, бо пад нагамі была, нарэшце, цвёрдая глеба, а дрэвы ўжо нікуды не беглі.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**














Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ».
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **8330 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі.
**№6 (303) 9.02.2001**. Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. №.
Падпісана ў друк у 13.00 8.02.2001



**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**



**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**
**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус". **Тэл. 55194, 55284.**
**Смаргонь:** Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул. Танкістаў, 8. **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя «РГ»